*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 42(427)** **20 КАСТРЫЧНІКА 1999 г.**

## Віншаванні ад ТБМ імя Ф. Скарыны

### *Раісе Жук - Грышкевіч*

***Шаноўная спадарыня Раіса!***

Таварыства беларускай мовы віншуе Вас з днём народзінаў і шчыра дзячыць за найвялікшую працу ў беларускім адраджэньні.

Пружанская зямля вывела Вас ў шырокі сьвет, і Вы нікол не забываліся на яе, і ў Нямеччыне, і ў Канадзе – на прасторах замежжа – сілкаваліся сокамі роднай зямлі, не цураліся роднай мовы.

Апантанасьць працай, няўрымсьлівасьць, годнасьць і гонар заўсёды пачувацца беларусам Вам падарвалі Вашыя продкі, якія ніколі не ведалі прыгону і марылі мець нашчадкаў мужкных і высакародных. Вам не сорамна перад імі – Ваша жыцьцё саткана з эпахальных падзеяў нашае краіны. Вашай рупнасьцю падтрымлівалася дзейнасьць БНР у эміграцыі. Згуртаваньне беларусаў Канады на чале з Вамі змагалася за вяртаньне на Беларусь незалежнасьці. Задзіночаньне беларускіх жанчын Канады разам са сваёй старшынёй набліжалі той час, калі ўсе беларускія семьі, нягодамі раскіданыя па сьвеце, зьбяруцца пад надзейнай страхой хаты новай вольнай Беларусі.

Найгучнейшае рэха прынесьлі на Беларусь падзеі ўсталяваньня і асьвячэньня ў Канадзе ў гонар тысячагодзьдзя хрысьціянства на Беларусі Беларускага памятнага Крыжа, кіраўніком пабудовы якога быў Ваш муж, верны сын Бацькаўшчыны Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Гэта быў выразны знак дапамогі землякам у барацьбе за волю. І сёньня, у цяжкую для Беларусі часіну, Вы разам са сваім народам, з Таварыствам беларускай мовы, газетай "Наша слова".

Мы зычым Вам даўгалецьця, мужнасьці і ўпэўненасьці, веры і надзеі на лепшыя перамены ў лёсе Радзімы.

Жыве Беларусь!

10.10.1999г.

***Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.***

### *Іосіфу Сярэдзічу*

***Паважаны Іосіф Паўлавіч!***

Рада ТБМ імя Ф.Скарыны віншуе Вас з юбілеем і жадае Вам, вядомаму журналісту і грамадскаму дзеячу, дэпутату Вярхоўнага Савета XII склікання, моцнага здароўя і творчага натхнення.

Мы жывём сёння ў складаны час, калі вырашаецца пытанне будучыні нашай дзяржавы. Беларусі неабходныя сумленныя людзі, для якіх вызначальнымі з'яўляюцца паняцці гонару і высакароднасці. Вы – адзін з грамадзянаў нашай краіны, хто не пераступіў цераз асноўныя чалавечыя каштоўнасці, хто заўсёды змагаўся за праўду і справядлівасць.

Створаная Вамі газета "Народная воля" стала флагманам беларускай незалежнай прэсы, аб чым сведчыць яе наклад і колькасць падпісчыкаў. "Народная воля" сёння ў нечувана цяжкіх умовах вядзе змаганне за праўдзівае інфармаванне людзей Беларусі, за ўсведамленне імі нацыянальнай ідэі развіцця, праводзіць грунтоўную гутарку па пытаннях беларускай мовы, гісторыі і культуры.

Рэспубліканская Рада ТБМ з прыемнасцю адзначае, што пры рэдакцыі газеты ўтварылася суполка Таварыства, інфармацыя аб дзейнасці нашай арганізацыі заўсёды мае месца на старонках выдання.

Мы ўпэўненыя, што "Народная воля" на чале з галоўным рэдактарам будзе і надалей трывала і ўпэўнена займаць пачэснае месца сярод беларускіх выданняў, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці і палітычны пераслед.

10.10.199г.

***Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны***

### *Ядвізе Грыгаровіч*

***Шаноўная Ядвіга Дамінікаўна!***

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны віншуе Вас з прысваеннем звання заслужанага работніка адукацыі, зычыць поспехаў у працы па ўмацаванні і прапагандзе беларускай культуры.

Дзякуючы Вашаму таленту арганізатара, выключнай працаздольнасці і мэтанакіраванасці, Беларускі універсітэт культуры стаў адным з вядучых адукацыйных цэнтраў, дзе збіраюцца і захоўваюцца каштоўнасці нашай культуры. Вашая непрыхаваная, нязмушаная любоў да роднай мовы дапамагла стварыць ва універсітэце беларускамоўную прастору для справаводства, навуковай і выхаваўчай работы. Пры дапамозе Вашай жаночай абаяльнасці мацярынскай цеплыні і клапатлівасці, дабрыні і спагаднасці ў навучальнай установе ўтварылася асяроддзе, у якім утульна пачувецца і студэнту, і выкладчыку, і прафесару. Нягледзячы на цяжкія эканамічныя ўмовы, універсітэт змог захаваць залаты фонд выкладчыкаў-прафесіяналаў. Сумленнасць і шчырасць рэктара, патрабавальнасць да сябе і іншых дапамагае і сёння шырока рэалізоўваць культурніцкія і адукацыйныя праграмы.

Дзякуем Вам, Ядвіга Дамінікаўна, і Вашым калегам за вернутыя краіне нацыянальныя скарбы слова, музыкі, пэндзля, адшуканыя таленты мінулага і сучаснага, з дапамогай якіх Беларусь вяртаецца ва ўласнае, непаўторнае і непадробнае жытло.

10.10.1999 г.

***Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.***

## Камісіі ТБМ імя Ф. Скарыны

На апошняй Рэспубліканскай Радзе быў зацверджаны шэраг камісій, іх вузкая накіраванасць дасць магчымасць ўзняць дзейнасць Таварыства на якасна іншы ўзровень працы. Мы запрашаем сябраў ТБМ абіраць для сваёй дзейнасці прыярытэтныя кірункі, стварыць іх філіі на ўсёй Беларусі і за яе межамі.

Спіс камісій па напрамках дзейнасці:

1). Адукацыйная (адказная С. Багданкевіч);

2). Па культуры мовы і ўдасканаленні правапісу (адказная Л. Дзіцэвіч);

3). Па зрокавым і гукавым афармленні жыццёвага асяроддзя (старшыня – С. Кручкоў);

4). Арганізацыйная (адказная – І. Марачкіна);

5). Па тапаніміцы, гістарычнай сімволіцы (старшыня – А. Грыцкевіч);

6). Тэрміналагічная (адказны – Станкевіч);

7). Па замежных сувязях (старшыня – С.Запрудскі);

8). Выдавецкая (адказны С. Гуркоў).

Атрымаць інфармацыю, запісацца, зрабіць прапановы ў камісіі можна па тэл. 284-85-11, ці ў сядзібе ТБМ па Румянцева – 13.

*Алесь Гурыновіч.*

### Адказ Упраўлення адукацыі Менгарвыканкама

**Таварыства беларскай мовы**
**імя Ф.Скарыны**
**сп.Трусаву А.**

Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама сумесна з адміністрацыяй Савецкага раёна і раённым аддзелам адукацыі разгледзела Ваш ліст, што паступіў з Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 16.09.1999 г. № 31-06/д-982, і паведамляе наступнае.

Інфармацыя аб стане беларускамоўнай адукацыі ў Савецкім раёне г.Мінска ў 1998/99 навучальным годзе Вам была адпраўлена 24.08.99года.

У гэтым навучальным годзе ў Савецкім раёне працуе 31 беларускамоўны клас. Малакамплектны беларускі 5 "Г" клас у гімназіі № 8 захаваны.

Разам з тым паведамляем, што адміністрацыя Савецкага раёна ў асобе намесніка кіраўніка адміністрацыі Ціцянкова М.С. гатова прыняць прапановы рады ТБМ раёна і вызначыць канкрэтныя сумесныя шляхі па захаванню беларускамоўных класаў.

**Начальнік упраўлення** **Г.А.Пятровіч.**

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Час усё паставіць на сваё месца. Калісьці і ў беларускім войску загучыць роднае слова.

**Сяргей Ёрш. Газета Слонімская. 30.09.99г.**

*Беларускамоўныя класныя журналы па сярэдніх школах Беларусі запаўняюцца ў распачатым навучальным годзе па-руску...*

*І зноў мы вяртаемся да таго, з чаго пачыналі калісьці: адстойваем мову, баронім душу, вучымся жыць, любіць і кахаць па-беларуску, не перашкаджаючы пры гэтым нікому з суседзяў, не прэтэндуючы на чужое, з вялікім жаданнем пабудаваць урэшце сваё...*

***Яўген Рагін. Літаратура і мастацтва. 24.09.99г.***

Нажаль, рэакцыйную ролю ў гэтым плане адыгрывае праваслаўная царква. Калі тут, у Польшчы, царква мае станоўчы ўплыў, то ў Беларусі – наадварот. У Касцёлах ужо пачынаюць разумець і служыць па-беларуску.

**Сямён Шарэцкі. Газета Слонімская. № 36.**

*Калі Бог дасць мне сына, я выхаваю яго Беларусам. Малы ён будзе засынаць пад беларускія калыханкі. Я буду чытаць яму народныя казкі і лепшыя казкі народаў свету перакладзеныя на родную мову.*

***Таццяна Сакун. Народная воля. 02.10.99г.***

### У рэдакцыю газеты "Наша слова" чытачкі з Менску Ліцвінавай Людмілы

*Паколькі свядомае беларускае грамадства ўсхвалявалі чуткі аб магчымым перайменаванні галоўнай вуліцы сталіцы пр.Фр.Скарыны ў пр.Перамогі, я звярнулася з лістом пра гэта пытанне ў Менгарвыканкам. І атрымала адказ. Вось ён.*

*Запыталася адразу і пра помнік Фр.Скарыну, чаму да гэтага часу ён не ўсталяваны.*

№ 20/639 от 03.09.99г. 220140, г.Мінск, вул. Ляшчынскага д.13, кв.20 Ліцвінавай Л.С.
на № 9-3952 от 03.08.99 г

**Шаноўная Л.С. Ліцвінава !**

Паведамляем Вам, што ў Мінскім гарадскім выканаўчым камітэце пытанне аб перайменаванні праспекта Францыска Скарыны не разглядалася.

Паводле Пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 17.11.1994 г № 181 для ўвекавечання памяці Францыска Скарыны прадугледжвалася паставіць помнік у г.Мінску.

Аўтары помніка планавалі размясціць яго перад галоўным уваходам у будынак Прэзідыума НАН Беларусі. Аднак акадэмія не пагадзілася з гэтым варыянтам.

Плануецца размясціць помнік слаўнаму сыну Беларусі каля праектуемага будынка Нацыянальнай бібліятэкі ў раёне праспекта Ф.Скарыны і вул.Філімонава.

**Начальнік упраўлення** **В.І.Кураш.**
**Станкевіч 221 74 97**

## Ахвяраванні наТБМ

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Кішкурна Уладзімір, г.Менск | – 100.000 руб. |
| 2. | Уладзіслаў, г.Менск | – 50.000 руб. |
| 3. | Сафо М.З., былая настаўніца з Пінску | – 200.000 руб. |
| 4. | Грыцкевіч Анатоль, г.Менск | – 500.000 руб. |
| 5. | С.Буткевіч (Англія) | – 20$ |
| 6. | Прускі Мікола (ЗША) | – 30$ |
| 7. | Выкладчыкі педкаледжа № 1, г.Менск | – 600.000 руб. |
| 8. | Група № 201 педкаледжа № 1, г.Менск | – 520.000 руб. |
| 9. | Група №202 педкаледжа № 1, г.Менск | – 480.000 руб. |
| 10. | Група № 301 педкаледжа № 1, г.Менск | – 540.000 руб. |
| 11. | Група № 302 педкаледжа № 1, г.Менск | – 400.000 руб. |
| 12. | Група № 403 педкаледжа № 1, г.Менск | – 520.000 руб. |
| 13. | Група № 404 педкаледжа № 1, г.Менск | – 480.000 руб. |
| 14. | Чарнель Зміцер, в. Курыяшы | – 500.000 руб. |
| 15. | Садоўскі Мікалай Паўлавіч, г. Менск | - 4.000.000 руб. |
| 16. | Галай, г. Менск | - 500.000 руб. |
| 17. | Плакса Уладзімір, г. Менск | - 1.000.000 руб. |
| 18. | Кішкурна Уладзімір, г. Менск | - 100.000 руб. |





## *Слаўнаму сыну Беларусі*

11 кастрычніка 1999 года пайшоў з жыцця вялікі чалавек, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Беларускага універсітэта культуры, заслужаны дзеяч навукі, сябра Саюза пісьменнікаў, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны

**МІКАЛАЙ МІХАЙЛАВІЧ ГРЫНЧЫК.**

Семдзесят шэсць гадоў адмераў лёс слыннаму літаратуразнаўцу, але гэты часавы прамежак змясціў такую значную нізку падзей, якія звычайна размяркоўваюцца на некалькі жыццяў. Пачатковая адукацыя ў польскай школе дапамагла ўсвядоміць каштоўнасць сваёй мовы і культуры і абраць дарогу служэння Бацькаўшчыне. Доўгія вёрсты вайны перамераў Мікола Грынчык і сувязным партызанскага атрада, і салдатам-армейцам. Маўклівымі сведкамі яго мужнасці сталі ваенныя ўзнагароды. Цяжкае раненне не спыніла вясковага хлопца на шляху да навукі: экстэрнат Гарадзенскага педінстытута, выкладанне ў сярэдняй школе, аспірантура Інстытута літаратуры АН БССР – такія прыступкі цярпліва і грунтоўна асвойваў упарты беларус. Кандыдацкая і доктарская дысертацыі далі дарогу ў шырокае літаратуразнаўства, якое чакала аб'ектыўнага даследавання. Уражвае шырыня аспекту аналітычнай работы: дакастрычніцкі і паслякастрычніцкі перыяд, творчасць М.Багдановіча і Куляшова, вершаскладанне і фальклор. Напісаны раздзелы калектыўных навуковых прац АН БССР "Гісторыя беларускай літаратуры" (у 4-х і 2-х тамах), больш за 200 навуковых артыкулаў. Гомельскі універсітэт захоўвае добрую памяць пра самаадданую працу загадчыка кафедры беларускай літаратуры. Беларускі універсітэт культуры глыбока смуткуе, праводзячы ў апошні шлях загадчыка кафедры беларускай мовы і літаратуры, знанага навукоўца, слаўнага сына Беларусі.

Мікола Грынчык заўсёды лічыў сябе сябрам Таварыства беларускай мовы, клапаціўся пра стан нашай мовы, балюча перажываў яе занепад. На старонках газеты "Наша слова" прафесар разважаў пра набалелае, вёў гутарку з чытачом пра культуру і мову.

Адляцела знічкай жыццё, а значны след Волата робіць сваю стваральную справу, яднае нас усіх на шляху да будаўніцтва сваёй дзяржавы.

Светлай памяццю ўшануе родная зямля адданага сына, добрым успамінам будзе грэць сэрцы людзей яго жыццёвы подзвіг.

***Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.***

# У суполцы МАЗ

Адбыўся сход сяброў Таварыства беларускай мовы Менскага аўтазавода, які вяла старшыня суполкі інжынер-тэхнолаг Браніслава Грэская.

На сходзе ішла гаворка аб чарговых кірунках работы суполкі. Ёсць куды прыкласці свае намаганні сябрам Таварыства. На аўтазаводзе цалкам спынены працэс вяртання роднай мовы. За апошнія тры гады ніводнага дакумента не выйшла ад адміністрацыі завода па-беларуску. Усе назвы кабінетаў у заводаўпраўленні напісаны па-расейскуу. Стала цалкам расейскамоўнай газета "Аўтазаводзец". Пагартаўшы яе падшыўку за гэты год знойдзеш толькі некалькі матэрыялаў на роднай мове, як правіла: літаратурная тэматыка ці тая, што тычыцца дзейнасці суполкі ТБМ.

На сходзе было прапанавана правесці навукова-практычную канферэнцыю, што было адразу адхілена. Хопіць займацца гаварыльняй, патрэбны канкрэтныя дзеі, асабліва ў сённяшні час. Справядлівая заўвага.

На сход былі запрошаны паэты: інжынер вытворчага аб'яднання "Планар" Міхась Мазурэнка, наладчык станкоў з ЛПК аўтазавода Генадзь Красоўскі, якія прачыталі свае вершы і расказалі пра сябе. Выканаў свае песні і расказаў аб кірунках работы ТБМ бард, старшыня Рады ТБМ Заводскага раёна г.Менска Пятро Русаў.

***М.Л.***

## Менская гарадская рада ТБМ, абраная на канферэнцыі 26 верасня 1999 г

| № | Прозвішча, імя | Месца працы, пасада |
|---|---|---|
| 1. | Мухіна Леанарда Станіславаўна | Хатняя гаспадыня, настаўніца беларускай мовы, старшыня |
| 2. | Анісім Алена Мікалаеўна | Інстытут мовазнаўства НАН РБ, малодшы навуковы супрацоўнік |
| 3. | Воюш Інга Дзмітрыеўна | Менскі дзяржаўны педкаледж №1, выкладчык |
| 4. | Лойка Тамара Васільеўна | Беларуская дзяржаўная палітэхнічная акадэмія, дацэнт |
| 5. | Таболіч Алена Уладзіміраўна | Менскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт, выкладчык |
| 6. | Стральцоў Алесь | Менскі дзяржаўны эканамічны універсітэт, студэнт 3-га курса |
| 7. | Бураўкін Алесь Генадзевіч | Беларускі універсітэт культуры, выкладчык, загадчык кафедры |
| 8. | Кажамякін Генадзь Вячаслававіч | Беларускі дзяржаўны універсітэт, рэктар выдавецкага цэнтра |
| 9. | Язерскі Сяргей Андрэевіч | Паліклініка № 28, урач |
| 10. | Баранава Тамара Іванаўна | Менская беларуская нацыянальная гімназія №4, настаўніца |
| 11. | Астрога Віктар Аляксандравіч | Інстытут гісторыі НАН РБ, навуковы супрацоўнік |
| 12. | Саламонаў Аляксей Андрэевіч | Пенсіянер |
| 13. | Цехановіч Зміцер Юр'евіч | АБ "Белаграпромбанк", эканаміст |
| 14. | Русаў Пятро | АП БРПІ, вядучы археолаг |
| 15. | Урбан Мікалай Аляксандравіч | Часова не працуе |
| 16. | Янчакаў Ігар Іванавіч | Завод "Тэрмапласт", фінансавы бухгалтар |
| 17. | Грыб Ян Янавіч | Пенсіянер |
| 18. | Вольскі Артур Вітальевіч | Пенсіянер |
| 19. | Шагулін Алег Іванавіч | Пенсіянер |
| 20. | Бекіш Віктар Андрэевіч | Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М.Танка, выкладчык |
| 21. | Дзям'яненка Юлія Яўгенаўна | Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі, карэктар |

**Павел Сцяцко,**

*доктар філалагічных навук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Пісьменства – а не пісьменнасць.*** Слова ***пісьменства*** з значэннем *'сістэма графічных знакаў, якія ўжываюцца для пісання', 'гурт пісьмовых помнікаў якой-небудзь гістарычнай эпохі пэўнага народу'* засведчыў "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн.,1926). На с.236 чытаем: "Пісьменства н. – письменность, словестность, литература". Выкарыстоўвалі гэтае слова класікі беларускай літаратуры. У Якуба Коласа чытаем: "Аленка, не хочучы адставаць ад Сцёпкі па часці прыгожага пісьменства, прымала ўдзел у насценгазеце". Аднак акадэмічныя слоўнікі 30-80-х гадоў на месцы гэтае адмысловае лексемы замацавалі слова ўсесаюзнага стандарту. У РБС-53 чытаем: "Письменность в разн. Знач. Пісьменнасць,-ці ж." (с.421). Тое самае бачым і ў РБС-82 (Т.2.С.65). Гэтае догмы трымаецца і ТСБМ. Праўда, тут падаецца і беларускае слова, але з кваліфікацыяй "застарэлае". На с.260 (Т.4.Мн.,-1980) чытаем: "Пісьменства, н. Уст.Тое, што і пісьменнасць". І падаюцца прыклады з тэкстаў такіх слынных постацяў (філолагаў, прафесараў, пісьменнікаў) як Ул.Калеснік і А.Мальдзіс: Цераз пераклады ўваходзіць нацыянальнае пісьменства ў скарбніцу сусветнай літаратуры (Калеснік). Ну як тут не здзіўляцца "звышкампетэнтнасці" складальнікаў слоўніка, якія адгарадзілі адмысловае беларускае слова гэтым вось "устарэлае", нягледзячы на яго агульнамоўнае выкарыстанне ў шматлікіх тэкстах.

Сучасны нацыянальны друк карыстаецца менавіта гэтым словам, а не штучным, усесаюзным стандартам ***пісьменнасць*** – амографам да слова з значэннем *'уменне чытаць і пісаць, наяўнасць ведаў у якой-небудзь галіне'* – ***пісьменнасць***.

Улічыўшы маўленчую практыку, "Русско-белорусский словарь" 1993 года падае ўжо слова ***пісьменнасць*** як эквівалент рас. ***письменность*** (Т.2.С.542). А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн.,1996.С.477) безагляднa перанёс з свайго папярэдніка кваліфікацыю гэтага слова як архаічнага: "Пісьменства, н. (уст.). Тое, што і пісьменнасць".

Але ж адмысловае беларускае слова ***пісьменства*** мае сваю натуральную будову, яно ўтворана ад ранейшага ***пісьмёны*** *'сістэма графічных знакаў, якія ўжываюцца для пісьма; тое, што напісана з дапамогай гэтых знакаў'* (ТСБМ.Т.4.С.260). А вось ***пісьменнасць*** не мае ў беларускай мове свае ўтваральнае базы, бо рас. ***письменный*** адпавядае беларускае ***пісьмовы*** *(пісьмовы знак, пісьмовая праца ды пад.)*. Уся недарэчнасць чужога ***пісьменнасць*** выяўляецца і з дэфініцыі (апісання значэння) гэтага слова, якую падае "Тлумачальны слоўнік" (Т.4.С.260): "Пісьменнасць, ж. 2. Сукупнасць пісьмовых помнікаў якой-небудзь гістарычнай эпохі пэўнага народа". Дык калі помнікі пісьмовыя (а не "пісьменныя"), то адкуль тое "пісьменнасць"? Вось гэтымі варункамі і тлумачыцца адмаўленне ў сучаснай маўленчай практыцы ад чужой, штучнай словаўтваральнай структуры – ***пісьменнасць*** – на карысць натуральнага слова ***пісьменства*** Параўн.: "Скарбніца беларускага пісьменства" – адмысловая рубрыка ў часопісе "Роднае слова" (Гл., напрыклад, у № 2 за 1999г.С.43).

І тут нашыя тлумачальныя слоўнікі толькі дэзарыентуюць чытача.

***Перадусім, найперш, і перш за ўсё.*** "Процістаянне традыцыяналістаў і рэфарматараў было вельмі вострым, дзякуючы перадусім актыўнасці прыхільнікаў кансерватыўнага лагеру" (Сяргей Запрудскі. Правапісныя рэформы ў славянскіх літаратурных мовах у XX стагоддзі. Беларускі камітэт славістаў. – Мн., 1998.С.6). "Цікавасць да тэарэтычных спрэчак не перашкаджае нам аддаць найбольшую ўвагу ў нашым даследаванні эвалюцыі ўласна палітэканоміі. Перадусім нас будуць цікавіць аўтары, якія зрабілі сапраўды арыгінальныя адкрыцці ў гэтай галіне" (Анры Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. Дапаможнік для студэнтаў. – Мінск: Тэхналогія. 1996. С.6).

Гэтае прыслоўе – ***перадусім*** – вельмі актыўнае ў сённяшнім друку, але нашыя слоўнікі чамусьці не фіксуюць яго. Праўда, "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года зафіксаваў: "Перад усім – прежде всего" (с.662), але памылкова кваліфікуе элемент ***перад*** як прыназоўнік. Менавіта з гэтых двух кампанентаў і ўтварылася (шляхам зліцця іх у адно цэлае) слова ***перадусім***. Яно адэкватнае сваім значэннем прыслоўю ***найперш***, якое зафіксаваў двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Т.1.Мн., 1988. С.731): "Найперш нареч. Разг. Прежде всего, в первую очередь". Яго аднатомавы папярэднік яшчэ не падае гэтага слова. Відаць, таму слова ***найперш*** і збаяліся нашыя складальнікі падаць без стылёвага абмежавання "размоўнае". Але ж прыметнік ***найпершы*** тут зусім натуральна не мае гэтага стылёвага абмежавальніка, а гэта і сведчыць пра неправамоцнасць яго і пры прыслоўі ***найперш***. Падаюцца з значэннем прыслоўя ***перадусім*** і словы ***перш, перш-наперш*** (рас. ***перво-наперво, прежде всего***), устойлівае спалучэнне ***перш за ўсё***( рас. ***прежде всего***).

З разгледжанага відаць: прыслоўе ***перадусім*** мае натуральную структуру і адэкватную сематыку згаданых прыслоўяў, што і заслугоўвае ўлучэння яго ў літаратурны слоўнік.

***Парывісты, гвалтоўны (вецер) - а не буйны.*** "Тлумачальны слоўнік" 1996 года падае: "Буйны... Моцны, парывісты. Буйны вецер" (с.96). Аднак іншыя беларускія слоўнікі не фіксуюць гэтай лексемы. БРС-62 падае: "Буйны в разн. знач. Крупный; буйны дождж – крупный дождь, буйны вучоны – крупный ученый" (с.134). Двухтомавы БРС – 88,89 таксама не пацвярджае згаданага ТСБМ. Тут бачым толькі: "Буйны... 1. Крупный; буйная бульба – крупный картофель; 2. (о растительности) буйный; буйная збажына – буйныя хлеба" (Т.1. Мн., 1988.С.201).

"Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй акадэміка К. Крапівы падае слова ***буйный*** (з націскам на першым складзе) толькі ў левай, расейскамоўнай часткі: "Буйный 1. (бурный) бурны; (порывистый) парывісты, (сокрушительный) гвалтоўны; буйный ветер – парывісты (гвалтоўны) вецер; 2. (о растительности) вялікі, пышны, буйны; буйные хлеба – вялікае (буйная) збажына; 3. Своенравный) буяны; (сумасшедший) шалёны, звар'яцелы; буйны характар – буяны (шалёны) характар". Гэты артыкул захаваны без зменаў і ў РБС –93 і ў РБС – 98 (Т.1.С.129).

Згаданы "Тлумачальны слоўнік" 1996 перанёс на свае старонкі тое, што падае "Словарь русского языка" С.Ожагава (М.,1980.С.58): "Буйный 1. Порывистый, сильный. Буйный ветер. 2.Быстрый в росте, обильный (о растительности). 3. Своенравный, непокорный, шумный. Буйный нрав. Буйный характер". А вось што фіксуе ТСБЛМ (с.96); "Буйный 1. Неспакойны, дзёрзкі, свавольны. Буйны нораў. 2. Моцны, парывісты. Буйны вецер. 3. Пра раслліннасць: багаты, раскошны. Буйная збажына". Тут толькі месцамі памяняліся пункты 2 і 3. Дарэчы тут будзе нагадаць, што і яго папярэднік – пяцітомавы ТСБМ – таксама шмат безаглядна перанёс на свае старонкі з 4-томавага "Словаря русского языка". У тым ліку і гэты артыкул ***"Буйны"*** (з націскам на першым складзе, як і ў расейскай мове), дзе падаюцца тыя ж расейскія значэнні і ілюстрацыі (Т.1.Мн., 1997. С.416).

І вытворныя з гэтым коранем маюць розную форму ў беларускай і расейскай мовах: "Буйство – буянства; буйствовать – буяніць" (РБС-93; РБС-98. Т.1.С.129).

*(Працяг у наступным нумары).*

**Літаратурны музей Максіма Багдановіча**

## ЗАПРАШАЕ

Прыняць удзел у Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі

**"І прад высокаю красою...",**

прысвечанай 130-годдзю з дня нараджэння Марыі Апанасаўны Багдановіч, маці класіка беларускай літаратуры М.Багдановіча.

Канферэнцыя адбудзецца 16 снежня 1999 г. у Менску ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

**Асноўныя кірункі каеферэнцыі:**

- Марыя Апанасаўна Багдановіч: факты і звесткі да яе жыццяпісу;
- Жанчына ў жыцці і творчасці М.Багдановіча;
- Жанчына ў нацыянальнай і сусветнай каштоўнаснай сістэме каардынат;
- Жанчына, як асоба, у нацыянальнай гісторыі і культуры;
- Паэзія высокіх пачуццяў: вобраз жанчыны ў сусветнай літаратуры;
- Творчая жанчына ў сучасным грамадстве.

**Формы ўдзелу ў рабоце канферэнцыі:**

- даклад – да 10 хвілін (для публікацыі дапушчальны аб'ём – 10 (дзесяць старонак);
- паведамленне – да 5 хвілін;

Рабочыя мовы – усе славянскія.

Просім паведаміць аб сваім удзеле і тэме даклада ці паведамлення да 15 лістапада 1999 г.

**Форма заяўкі:**

- прозвішча, імя, імя па бацьку (поўнасцю);
- месца працы, пасада, вучоная ступень, званне;
- назва даклада;
- службовы і хатні адрасы і тэлефоны.

Па заканчэнні канферэнцыі плануецца выданне зборніка дакладаў. Для гэтага патрэбна прадставіць тэкст даклада, набраны на кампутэры ў сістэме Microsoft для Windows і ягоную раздрукоўку ў адным экзэмпляры.

Рэдакцыйная рада пакідае за сабой права адбору, матэрыялаў для выдання.

Заяўкі дасылайце на адрас: 220029 г.Менск, вул. М.Багдановіча, 7а, на імя дырэктара Літаратурнага музея М.Багдановіча.

Кантактны тэлефон: (017) 234-13-57

Факс: (017) 234-72-61.

## Беларусь – мая Радзіма

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сумесна са Слонімскім маладзёжным грамадскім аб'яднаннем "Ветразь" праводзіць конкурсы для моладзі ва ўзросце да 30 гадоў.

### Конкурс сачыненняў

Для напісання сачынення вы павінны абраць любую з наступных тэм:

- Беларускі народ. Быў. Ёсць. Будзе.
- Дзяржаўная незалежнасць Беларусі – гэта...
- Нацыянальная мова – гэта...
- Чым будзе краіна без волі?

Аб'ём сачынення павінен складаць не больш 5 старонак рукапіснага тэксту.

### Конкурс вершаў

Для ўдзелу ў конкурсе вершаў, неабходна даслаць не больш за 5 вершаў на вольную тэму.

**Мова напісання – БЕЛАРУСКАЯ.**

Але ж галоўнае – наш конкурс дае магчымасць знайсці новых сяброў, пазнаёміцца з людзьмі, што любяць Беларусь і неабыякавыя да яе лёсу.

Пераможцы конкурсаў атрымаюць прызы – касеты з запісамі беларускіх гуртоў, кніжкі, фотаальбомы, падпіскі на газеты і іншае. Лепшыя ўрыўкі з сачыненняў і вершы будуць надрукаваны ў мясцовым друку. Акрамя таго, усе лепшыя вершы ўдзельнікаў увойдуць у паэтычны зборнік слонімскіх паэтаў разам з ужо вядомымі імёнамі літаратуры і атрымаюць па некалькі паасобнікаў зборніка.

Усе свае творы на два конкурсы неабходна даслаць да 5 лістапада на адрас: 231800, Слонім-9, а/с 3.

Даведкі па тэл. 3-14-93 (Алесь) з 18.00 да 21.00.

Абавязкова паведамляйце свой адрас і тэлефон для сувязі.

Вызначаць пераможцаў будзе журы, у склад якога ўвойдуць беларускія літаратары.

Жадаем поспеху!

## Хто мае ідэі?

За апошні час ТБМ выйшла на якасны іншы ўзровень. Упарадкоўваюцца і робяцца дзеяздольнымі структуры Таварыства. Пры сядзібе створаны і працуюць кніжны і відыяклубы. 1 і 8 верасня разам з Менскам паказалі сябе ў дзеянні суполкі іншых гарадоў і месцаў Беларусі.

У сядзібу ТБМ пайшла моладзь з пытаннем, што мы можам рабіць, каб адрадзіць родную мову? Тут пакуль маюцца хібы, якія трэба выпраўляць. Адным з варыянтаў задзейнічання няскарыстанага патэнцыялу нашых прыхільнікаў можа быць друк улётак, што прапагандуюць беларускую мову, якія можна будзе прапанаваць для расклейкі і раздачы. Гэта хаця і банальны, але дзейсны сродак, які мы яшчэ не ажыццяўлялі.

Каб скарыстаць інтэлектуальны патэнцыял прыхільнікаў беларускай мовы прапануем пісаць і дасылаць нам тэксты для ўлётак, якія можна накіроўваць па адрасе сядзібы ТБМ – Румянцава -13, ці па факсе 284-85-11. Тэксты павінны быць лаканічнымі – не больш за 10 сказаў, антыміністычнымі, у сэнсе: ***па-беларуску размаўляць крута, прэстыжна***. Лепшыя з іх мы надрукуем ва ўлётках, а таксама ў "НС" з імёнамі аўтараў.

У каго ёсць цікавыя ідэі, праекты захадаў па адраджэнні нашай мовы і хто хацеў бы іх здзяйсняць разам з намі, накіроўвайце іх у сядзібу ТБМ пісьмова, ці прыходзьце да нас на Румянцава-13.

*Алесь Гурыновіч.*

## Родны край

Так называецца беларускі адрыўны каляндар. Сёлета спаўняецца 10 гадоў з часу выхаду ў свет яго першага выпуску. Ідэя стварэння такога календара належыць выдавецтву "Беларусь", якое, на мой погляд, годна працягвае традыцыю гэтага выдання, перапыненую вайной. За час свайго існавання змяняўся фармат календара, яго тыраж.

(У лепшыя гады ён складаў да 200 000 асобнікаў, сёлета, для параўнання, - усяго 35100.) І толькі яго змест заўсёды адпавядаў сваёй назве. У юбілейным выпуску календара, як і ў мінулагодніх, на кожны дзень падаюцца астралагічныя звесткі: усход і заход Сонца, даўжыня дня, фазы Месяца. Пазначаны як вялікія рэлігійныя святы, так і іншыя, што засталіся ў жыцці нашай краіны, як адзнака савецкіх часоў.

Змешчаны матэрыялы пра народныя паданні, прыкметы аб надвор'і. Шмат артыкулаў прысвечана юбілейным датам дзеячоў навукі, культуры, гісторыі: С.Буднаму, Ю.Тарычу, Мікалаю Радзівілу Чорнаму, У.Корш-Сабліну, С. Кавалеўскай, В.Ванькоўчу, А.Бурбісу, І.Хруцкаму, Ул. Караткевічу, С.Станюце, М.Аўрамчыку, В.Тарасу. і іншым. Ёсць старонкі пра паходжанне беларускіх прозвішчаў, назваў роднай зямлі, пра яе раслінны і жывёльны свет, "Чырвоную кнігу". Цікавыя рубрыкі: "Як вас завуць", "Ваша здароўе", "Народная медыцына". І, безумоўна, шматлікія парады, а таксама кулінарыя рэцэпты нацыянальных страў. "Родны край" – гэта наш каляндар. У Менску набыць яго можна за 184000 рублёў у кнігарні, што знаходзіцца ў пераходзе метро "Плошча Перамогі".

*Ірына Ляксеева*

## Нас размінуюць па-плану

У злучэннях і частках Менскай залогі войск МВД прайшлі комплексныя заняткі па падрыхтоўцы да дзеянняў пры пагрозе тэрактаў і ў выпадках узнікнення сітуацый надзвычайнага характару. У вучэнняў адпрацоўваліся пытанні рэжыму бяспекі пасажыраў электрацягнікоў, праверкі пашпартнага рэжыму і багажу, а таксама правяралася абсталяванне кантрольна-прапускнога пункта блокпастоў. Зараз, калі перад сядзібай ТБМ вы ўбачыце адмысловую машыну, не хвалюйцеся! Усё ідзе па-плану.



Фота Віктара Талочкі, БелТА.

## "Нябачны мур"

У Менску 9 і 10 кастрычніка на сцэне тэатра "Вольная сцэна" адбыліся канцэрты прымеркаваныя 10-цігоддзю падзення Берлінскага мура. Акцыя называлася – міжнароднае спатканне бардаў у Менску "Нябачны мур". З беларускага боку ўдзельнічалі Алесь Камоцкі і Віктар Шалкевіч, а таксама Шыман Зыховіч з Польшчы і Дытэр Калька з Нямеччыны.

Алесь Камоцкі выканаў лірычныя песні і рамансы па свае вершы, а таксама Ларысы Геніюш і Рыгора Барадуліна.

Таксама спадабаліся публіцы песні і жарты Шымана Зыховіча, у залі многія добра разумелі польскую мову. Шыман уваходзіць у склад артыстаў знакамітага кракаўскага кабарэ "Піўніца пад Баранамі".

Дытар Калька спяваў пад акампанімент нацыянальнага нямецкага інструмента, нешта накшталт квадратнага гармоніка. Паколькі польская мова для беларусаў зразумелая нямецкі бард зносіўся з гледачамі па польску, жонка ў Дытара -- польская аўтарка казак.

Чацвёртым выйшаў на "Вольную сцэну" Віктар Шалкевіч, лаўрэат розных міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў бардаўскай песні. Віктар выконваў свае песні пад папсовую музыку, на мой асабісты погляд пад гітару яны гучаць усё ж такі лепш.

Алесь Камоцкі падараваў мне як карэспандэнту "НС" свой зборнік вершаў і песень "Спроба ісці па расе", песні з якога будуць надрукаваны у "НС". Таксама абяцаў даслаць тэксты сваіх песень з акордамі для "НС" і Віктар Шалкевіч.

Арганізатарамі гэтага мерапрыемства былі – грамадскае аб'яднанне "Культурны кантакт", "Інстытут польскі", "Інстытут Гётэ". Вёў вечарыну Вячаслаў Ракіцкі.

Хацелася б пажадаць, каб у наступны раз арганізатары наймалі большую залу, і ўсе жадаючыя маглі б трапіць на такое цудоўнае мерапрыемства.

*Алесь Гурыновіч.*

### КРУМКАЧЫ

**трыпціх**

**1**

Раздабрэлы ад крыві,
Ледзьве сунецца крумкач.
Цісне хрып нутро: "Ірві!"
Асалода – гора, плач.
Пільна сочыць ён за катам,
За жахлівым азіятам,
Што не можа без вайны,
Без няшчасця і ахвяр,
Ля заходняе Дзвіны
Зноў паліў крывёй абшар.
Што яму ў жыцці святое?
Старац ці дзіця малое?
Бог, жанчына? Мо душа,
Што належыць да крыжа?
Крыважэрны цар Іван
Вораг белага ліцвіна,
Прыхаваўся ў ім шатан,
Сейбіт цемрадзі, руінаў.

**2**

Край рахманых звонкіх рэк
І паданняў, і баладаў,
І язычніцтва абрадаў,
Ласку зведаў, пошасць,
здзек.
Вольных думак і майстроў,
Непрыгоннага мастацтва
І заядлых ваяроў,
Што паўсталі супраць
хамства.
Сцелюць госцю тут абрус
Чысты, шчыра і гасцінна,
І заўжды няма спакус
Да чужых зямлі й хацінаў.

**3**

Васпан жаху – маскавіт,
Руйнаваў дашчэнту край.
Крумкачу крывавы рай
Покліч – скрыгатанне дзід.
Раздабрэла ад крыві
Ледзьве сунецца крумкач.
Цісне хрып нутро: "Ірві!"
Асалода – гора, плач.
Кажуць, што з тае пары
Васпан і крумкач сябры
І сякуць, дзяўбуць
бязбожна
І прыдбалі, што заможна,
А адметнасць таго краю
Іх нашчадак вынішчае.

*Ігар Лосік.*





# Лексічны атлас беларускіх народных гаворак

У пяці тамах. Том 5. Сематыка. Словаўтварэнне. Націск. (Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь. Камітэт дзяржаўных знакаў. – Мн.: ДП "Мінская друкарская фабрыка", 1998, — 125с.+337 картаў +24 матэрыялы (без карт №338 –361).

*Рэдакцыя газеты "Наша слова" недзе з год назад паведамляла, што ў інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі выйшаў у свет апошні пяты том Лексічнага атласа (1993 – т.1, 1994 – т.2, 1996 – т.3, 1997 – т.4, 1998 – т.5). Сёння мы маем грунтоўную анатацыю Івана Яшкіна, кандыдата філалагічных навук і лічым, што яна выклікае адпаведную цікавасць, бо сам пяты том, як і амальусе іншыя можна яшчэ набыць у сядзібе ТБМ па Румянцава, 13 у Менску.*

Лексічны атлас з'яўляецца працягам "Дыялектычнага атласа беларускай мовы" (1963), у якім даследаваны фанетыка, марфалогія беларускіх народных гаворак, сінтаксічныя асаблівасці (287), а таксама 110 карт лексічных. Калектыў аўтараў за яго атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР. Папярэднічаў апошняму невялікі, першы ва ўсходнеславянскай дыялекталогіі атлас П.А.Бузука "Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі" (1928, 110с., 20 карт). Ён даў узор лінгвагеаграфічнага даследавання мясцовых гаворак. Да гэтага падзел беларускіх гаворак даецца на "Дыялекталагічнай карце рускай мовы ў Еўропе" (1914) МДК, на карце акадэміка Я.Ф.Карскага (1904, 1917). Падзел беларускіх гаворак Магілёўскай губерні маецца ў працах Е.П. Казановіч (1911), Е.Р.Раманава (1918). Групоўка ўсіх беларускіх гаворак была зроблена Е.Р.Раманавым яшчэ ў 1887, а Ян Чачот зрабіў такі падзел ў 1846.

Геаграфія палескіх беларускіх гаворак была паказана на картах К.П. Міхальчука (1877), А.Аганоўскага (1880), Я.Ф.Карскага (1903), В.А.Камінскага (1913), М.М.Дурнаво (1913), МДК (1915), У.Ганцова (1923), І.Зялінскага (1933), Л.Асоўскага (1936), Ю.Тарнацкага (1939), Ф.Т.Жылко (1955), Т.В.Назаравай (1985) і інш.

У 5-ым томе Лексічнага атласа змешчаны 337 картаў з каментарыямі і 24 каментарыі (№338 – 361) без карт. Ва ўсіх пяці тамах налічваецца 1791 карта лінгвістычныя і XIX дапаможных, уступных. Зафіксавана звыш 200000 слоўнікавых адзінак, якія пракартаграфаваны ў атлас. Матэрыялам адной праграмы з'явіліся для выдання атласа каля 4000 найменняў прадметаў, прыкметаў, працэсаў матэрыяльнай і духоўнай культуры. Мясцовы моўны матэрыял сабраны, апісаны ў 215 населеных пунктах Беларусі. Асобна па кожнаму найменню (назве) зроблена карта, тыпу: літаратурнай назве ***бочка*** адпавядае (пашырана) ў кожнай мясцовасці свая назва ***бачэрка, дзяжа, дзежка, кадзь, кадушка, шчапь, шчэпік, дашчапь, цэбер***. Таксама кожнае асобнае слова можа мець некалькі значэнняў. Такія карты называюцца семантычнымі. Слова ***бор***, напрыклад, мае наступныя значэнні: ***'хваёвы лес (з хвоі)'. 'хвойны лес (з хвоі і ёлкі)', 'змешаны лес', 'вялікі лес', 'лес на ўзвышаным месцы', 'узвышанае месца', 'лес на нізкім месцы', 'мікратапонім Бор', 'від проса', 'баравы' - лясны пячысцік'*** (к.№3). Яшчэ: ***багавіппе***: ***топкае балота, дрыгва, водарасці, багун*** (к. №2).

Абавязковай умовай для складання кожнай асобнай карты з'яўлялася не наяўнасць аднолькавага матэрыялу, а прысутнасць супрацьпастаўленняў у выглядзе іншых назваў ці іншых значэнняў.

Лексічны атлас – гэта вынік дваццацігадовага (з 1971) вывучэння слоўнікавага складу народных гаворак навуковымі супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства і выкладчыкамі навучальных устаноў, аматарамі роднага слова, хто любіць свой край, студэнтамі, сябрамі дыялекталагічных гуртоў і інш. Меркавалася таксама змясціць у 5-тым томе матэрыялы беларускіх гаворак суседніх мясцовасцяў па-за межамі Рэспублікі Беларусь на тэрыторыі Польшчы (там выходзіць атлас Беласточчыны), Літвы (выяжджалі туды нашы экспедыцыі), Латвіі (таксама былі экспедыцыі), Расіі (былі экспедыцыі на Смаленшчыну), Украіны (дасланы матэрыялы). Не давялося змясціць гэтыя матэрыялы ў атласе. Яны часткова змешчаны ў дыялекталагічных зборніках.

Вучоныя лічаць, што вялікая навуковая каштоўнасць атласа ў вывучэнні (і па адной праграме) у вельмі сціслы час мясцовай лексікі, ад чаго атрымаўся г.зв. сінхронны зрэз. Лексічны атлас мае агромістае значэнне для лінгвістыкі, для сумежных навук, як гуманітарных, так і біялагічных і інш.

Асаблівасці слоўнікавага складу беларускай мовы могуць быць выяўлены на аснове матэрыялаў атласа шляхам вывучэння кожнага слова ў гістарычнай паслядоўнасці самога яго працэса ўтварэння формаў, з'яўлення і змены значэння.

Для вырашэння, напрыклад, праблемы вызначэння месца першапачатковай радзімы славян не абысціся без вывучэння матэрыялаў атласа. Паводле многіх гіпотэз прарадзіма славян знаходзілася на тэрыторыі Беларусі. Акадэмік А.А.Шахматаў адносіў рассяленне праславян у Еўропе на абшары частак суседніх басейнаў Заходняй Дзвіны і Нёмана. Ю. Развадоўскі лічыў, што славянская прарадзіма знаходзіцца ў басейне Верхняга Дняпра і аж да вусця Сажа і Бярэзіны. Ю.Машынскі ўключаў у тэрыторыю радзімы славян басейн Верхняга Дняпра разам з басейнам Прыпяці, вярхоўямі Варты, Одэра, Віліі, Буга, Прыпяці, сярэдняга Дняпра, Ніжняга і Сярэдняга Пасожжа. В.Т.Каламіец частку тэрыторыі сярэднебеларускіх гаворак адносіла да сівой радзімы славян.

Возьмем праблему балцкага субстрата на Беларусі ці балта – славянскага адзінства. Этнічная былая прыналежнасць на Беларусі вучонымі вызначаецца так, што ў басейне Нёмана і Заходняй Дзвіны, мабыць, у ІУ-ІІ ст.да н.э. скончылася эпоха агульна гукавых і марфалагічных балцка-славянскіх з'яў. У ІІ ст. нашай эры балты, бясспрэчна (паводле гэтай гіпотэзы) жылі ўжо асобным жыццём ад славян. Лічыцца, што славяне прыйшлі з Дуная, з прыкарпацкай прарадзімы. Іншыя мяркуюць, што балты (нашчадкі старажытных герулаў), відаць, пасля IIIст.н.э. прыйшлі з берагоў Азоўскага мора, на чале з Адаакрам праз Італію і быццам, у канцы V ст. частка іх рушыла на поўнач. У IXст.н.э. яны насялялі нёманска-дзвінскія землі.

Асэнсаванне і вывучэнне назваў жывёльнага свету на лінгвістычных картах першага тома Лексічнага атласа і даследаванне паўночна-заходняй занальнай лексікі ў найменнях жывой прыроды пакуль паказалі наяўнасць тут балтызмаў у малой колькасці наогул. Яны абумоўлены культурна-гістарычным узаемадзеяннем з моўнымі сістэмамі суседніх народаў і з'яўляюцца познімі запазычаннямі. Гаварыць пра балцкіх субстрат на Беларусі, як паказваюць матэрыялы атласа і іншыя крыніцы, ніяк пакуль не выпадае. Вывучэнне працягваецца.

Сферы ўплыву суседніх гаворак рускай мовы, украінскай, польскай, літоўскай на сумежныя гаворкі Беларусі таксама можна растлумачыць сабранымі скарбамі пяцітомнага Лексічнага атласа.

Атлас можа адказаць і на пытанні ўплыву беларускай мовы, яе гаворак на суседнія літаратурныя мовы і гаворкі. Возьмем як прыклад назву ***баравік*** Boletus edulis Fr. (руская – *белый гриб*, украінская – *білий гриб, гриб*). У польскую мову назва ***баравік*** трапіла з беларускіх гаворак праз творчасць А.Міцкевіча і стала літаратурным тэрмінам ***borowik szlachetny.*** У літоўскую - праз Віленскі край, Навагрудчыну, дзе пануе назва ***баравік.*** У літоўскай літаратурнай мове ўжываецца тэрмін ***baravikas, tikrinis baravikas***. У Літве пашырана народная назва ***sterkotis, krivauninkas***. У латышскай мове таксама маем уплыў беларускай мовы – ***barvika cietene.*** Характэрнай назвай для рускіх гаворак з'яўляецца не назва ***баравік*** (хоць зрэдку яна сустракаецца і там), а пануе назва ***белый гриб***. Пашыранымі народнымі назвамі ў Расійскай Федэрацыі з'яўляюцца назвы баравіка: ***белянка, беляк, коровка, глуховик, дубовик, поддубовик, почечник, тумник, поддубёнок, желтушка*** і інш. Гэтыя назвы, напрыклад, зафіксаваны ў Маскоўскай вобласці.

Самае густое пашырэнне назвы ***баравік*** на тэрыторыі амаль усёй Беларусі. Адсюль аб'ектыўным з'яўляецца ўжыванне гэтай назвы ў якасці літаратуранага тэрміна для грыба **Boletus edulis Fr.**

Што ні назва, што ні значэнне, якія завіксафаны ў атласе – гэта асобная тэма для даследвання, гэта аб'ектыўны матэрыял для манаграфій, для практычнага карыстання гуманітарыю і інш.

Выданне лексічнага атласа высока ацэньваецца ЮНЕСКА і грамадскасцю сусветнай супольнасці. Найбольш цывілізаванай краінай, цывілізаванай нацыяй лічыцца тая краіна, тая нацыя, у якой маецца най большая разнастайнасць атласаў.

Чалавецтва ведае, што розныя тэрытарыяльныя варыянты мовы – дыялекты і гаворкі – гэта важнейшыя гістарычныя помнікі, як самога носьбіта мовы, так і суседніх народаў, і ўсяго свету. Параўн. бел. ***вясёлка*** і франц. ***arcenciel*** мае адну матывацыю, адзін унутраны сэнс ***'вязьмо, пояс, скручанае перавясла'***.

У апошнім пятым томе сабраны пераважна карты, на якіх паказана геаграфія значэнняў слова (33). Параўн. карту №5 "Значэнне слова ***борць***": *'дрэва, у якім водзяцца пчолы', 'вулей для прывабліваппя пчол', 'тоўстая хвоя', 'пчаліпае гняздо', 'застаўка ў вулей', 'адтуліна, ляток у вулей', 'дамашнія пчолы, не дзікія', 'ніжняя частка вулея-калоды'*. Вялікую частку тома складаюць карты (81) рэдкаўжавальных і не ўсюды пашыраных, а таксама іхнія значэнні, змяненне значэнняў. Параўн. карту №9 "Пашырэнне і значэнне слова ***галуза***": *'пра чалавека', 'недагарэўшае палена дроў, галавешка', 'сук, галіна', 'бязрогая карова', 'прозвішча', 'назва вёскі', ' адростак кораня расліп', 'вялікая палка, даўбешка', 'галалёд', 'імга', 'чорнае зерне ў коласе жыта, проса'*. На такога тыпу картах выяўляюцца адрозненні ў значэннях на тэрыторыі рэспублікі аднаго і таго ж слова. Розны сэнс слова аднаго і таго ж на розных тэрыторыях стварае перашкоды пры моўных зносінах, выклікае непаразуменні. Нарпыклад, слова ***нічогі*** мае адваротныя значэнні на ўсходзе і на паўднёвым захадзе рэспублікі. Так, ***нічогі ўрадзіў ячмень***, г.зн. ***пядрэнны, пават добры*** (параўн. руск. ***пеплохой***) на Магілёўшчыне супроцьпастаўлены значэнню ***'дрэнны'*** ў гаворках Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці і Столінскага раёна Брэсцкай вобласці, дзе ***нічогі ячмень***, г.зн. ***дрэнны, пеўрадлівы***. На Палессі ***паглы лес*** г.зн. ***'стромкі, вялікі, высокі'***, а на ўсходзе – ***паглы -'нахабны'*** (русізм). На Палессі ***глухасць 'позні апоўначы час'***, а на Пасожжы – ***'глуш, гушчар, непраходнае месца'.***

На шматлікіх картах 5-га тома шырока адлюстравана словаўтварэнне ў розных часцінах мовы тыпу "Пашырэнне слоў ***хлопчык, хлапчак, хлапчук*** (к.№ 74), "Варыянты слова ***падол***", "Варыянты слова ***маразішча***".

Упершыню даюцца карты на пашырэнне імёнаў і іх варыянтаў праваслаўнага і каталіцкага веравызнання тыпу ***Андрэй, Восіп, Юзаф, Павел, Тодар*** і інш.

Вялікая ўвага нададзена адлюстраванню варыянтаў канчаткаў у родным склоне адзіночнага і множнага ліку. Тут чытач знойдзе параду на наяўнасць ужывання канчаткаў ***–аў, -яў***, як "дыскусійных". У легендзе, напрыклад, да № 134 даецца "афіцыйная" прыярытэтная форма ***песень, вішань*** з націскам на першым складзе, але ў каментарыю да карты адзначаны амаль, як паралельныя, формы з канчаткамі тыпу ***песняў, вішняў.*** Лінгвагеаграфічны артыкул аб'ектыўна адлюстроўвае жыццёвасць гэтых канчаткаў.

Найцікавейшы матэрыял даюць карты, на якіх адлюстроўваецца месца націску. Характэрным з'яўляецца месца націску ў слове на другім складзе ад канца на аснове ў назоўным склоне адзіночнага і множнага ліку назоўнікаў ***а*** – асноў тыпу ***хмара, ліпа, квактуха, асіна, лагчына*** (к.№;119). І толькі ў басейне Шчары, Нёмана, Віліі і возера Нарач густа пашырана форма з націскам на канчатку тыпу ***хмара', ліпа'*** і інш. Назоўнікі нават мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку тут маюць націск на канчатку тыпу ***звяра', плуга', стага', караня'*** (карты № 127-131). Па жаданні гаворачага такое месца націску адзначаецца і ў традыцыйных гаворках на тэрыторыі сярэдняга Пасожжа тыпу ***пі баіцца звві́ра', лі плуга' хадзіў, лі стыга', з кыріня'***. Тут жа спарадычна ўжываецца націск на канчатку і ў назоўнікаў жаночага роду, напрыклад: ***а хмара' яго ведыя, ой, там стыяла ліпа', ліпа' ў абхват, там пізіна' быльшая – вешпа стайіць, німа квактухі', з асіны' пачоўкі, лашчыта' тут*** (г.зн.вялікая, нізкая). Як бачна, месца націску на канчатку мае тут бы стылёвы характар. Пашыранае ўжыванне націску на захадзе рэспублікі, відаць, з'яўляецца інавацыйным, новым і ўваходзіць у зону сферы ўплыву літоўскай мовы на беларускую. У літоўскай мове націск на канчатку ў гэтых лексемах з'яўляецца характэрнай з'явай. Звяртае на сябе ўвагу тое, што тэрыторыя пашырэння гэтай асаблівасці ўваходзіць у склад сярэднебеларускіх гаворак заходняй лакалізацыі (у складзе кліна ў кірунку да Менска). Можна меркаваць, што тут гэта субстытуцыйная з'ява (бо літоўская мова з'яўляецца ў гэтай мясцовасці больш прэстыжнай), а не субстратная (не сляды тут параможанай балтыйскай мовы ў складзе беларускай мовы – пераможцы). Мо гэта з'ява з націскам мае кантамінацыйны характар у пагранічнай зоне. Зусім відавочна, што гэта з'ява патрабуе дэталёвага даследавання як для вырашэння глабальных, так і практычных мэт (для правапісу, напрыклад, у сучаснай беларускай літаратурнай мове).

У фальклоры на ўсходзе рэспублікі часам адзначаецца перанос націску на канчатак тыпу: *"Еж, кума, віныград, тэя ягадкі', якія сыладкі', а якія гарькі', то длі мае жонкі"*.

Агромністы матэрыял па сінаніміцы знойдзе даследчык і чытач у 5-ым і іншых тамах атласа на картах тыпу "Слова ***досыць*** і яго адпаведнікі", "Слова ***печакана*** і яго адпаведнікі".

Дакладнае размеркаванне сінонімаў гэтых радоў па значэннях дапамогуць новыя рэгіянальныя атласы раёна ці групы вёсак, міні- ці макрарэгіёна. Дакладная дэталізацыя чакае сваіх выканаўцаў на ніве народнай мовы.

Паводле кніг: 1.Иванов В.В. Историческая грамматика русского языка. ,1964.С.53 (Схематическая карта расселения праславян в Европе); Коломиец В.Т. Происхождение общеславянских названий рыб. Киев, 1983.

2. Бузук П.А. Спроба гісторыі дагістарычнай эпохі славянскай фонэтыкі. Мн., 1927.С.5; Витебская губерния: Историко-географический и статистический обзор. Вып. 1. История. Природа, Население. Посвещение. Витебск, 1890.С.288.

3. Лексічныя ландшафты Беларусі: Жывёльны свет. Мн., 1995.С.197-204 і інш.

4. Астрэйка В.Дзм. Паўночна-заходняя занальная лексіка ў найменнях жывой прыроды (лінгвагеаграфія і паходжанне). Аўтарэферат дысертацыі на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук. Мн., 1997.

5. Lietuviu kalbos atlasas. I.Leksika. Vilnins, 197. №.95. Слоўнік літоўскай мовы.

6. Войтенко А.Ф. Лексический атлас Московской области. Москва, 1991.К. №81.

***Іван Яшкін.***